БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЕЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

22 лістапада 1994 г.

Аўторак

№ 125(13842)

Кошт у розніцу 40 рублёў

Выдаецца з 1921 года

У НУМАРЫ:

☐ *Адметы часу.* СТАНДАРТ. 2

☐ *Сто артыкулаў з гісторыі Беларусі.* ВІЦЕБСКІ КАРЭСПАНДЭНТ ПУШКІНА. 2-3

ЗАМАЛЁЎКІ З НАТУРЫ. 2

ЛІТАРАТУРНАЯ ГАСЦЁЎНЯ. 3

ЦЁМНЫ БОК МЕСЯЦА. 4




Малюнак Віктара ДУБОВІКА.

Менавіта так могуць сказаць пра сваіх дзяцей і бацькі, і выхавальнікі дзіцячага садка "Вясёлка" Віцебскага станкабудаўнічага завода імя Кірава. Тут ужо год з дзвюма групамі выхавальнікаў займаюцца паглыбленым вывучэннем нямецкай мовы.

Нядрэнную моўную практыку атрымалі выхавальнікі садка ад сустрэч з філолагам з Мюнхена Міхаэлем Брэтцынгерам, які на працягу трох месяцаў працаваў тут.

Зусім нядаўна 22 малышы з выхавальнікамі пабывалі на аздараўленні ў Германіі па запрашэнню Нінбургскага ландкрайса. Цёпла прынялі дзяцей і ў горадзе-пабрацiме Віцебска — Нінбург-Везеры. Дзеці двойчы выступалі з канцэртамі ў Доме састарэлых — выконвалі беларускія і нямецкія песні і танцы.

Нядаўна паліцы з новымі маляўнічымі выданнямі на нямецкай мове папоўніліся ў "Вясёлцы". Іх прыслаў пастар з нямецкага горада Зуля, даведаўшыся пра цікавыя пачынанні віцебскіх педагогаў.

Наталля КОНАХАВА,БЕЛІНФАРМ.

## Кур'ер "ЧЗ"

### Пастанова Кабінета Міністраў

*У сувязі са стабілізацыяй эпідэміялагічнай абстаноўкі па чуме ў Рэспубліцы Індыя Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь пастанавіў аднавіць паездкі беларусаў у гэтую краіну.*

### Пакуль без каментарыяў

*Адбылося пасяджэнне Часовай камісіі Вярхоўнага Савета па праверцы фактаў выкарыстання матэрыялаў аператыўна-вышуковай дзейнасці ў некаторых сродках масавай інфармацыі, на якім былі вызначаны напрамкі яе работы.*

Дэпутаты прынялі рашэнне ўстрымлівацца ад якіх-небудзь каментарыяў адносна дзейнасці камісіі да яе афіцыйнай справаздачы Вярхоўнаму Савету. Першыя парламенцкія слуханні запланаваны на 28 лістапада.

### У дэмакратаў – рознагалоссі

*Чарговы, пяты з'езд Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі адбудзецца 17—18 снежня бягучага года.*

Такое рашэнне прынята на пасяджэнні Цэнтральнага савета партыі. Вострыя рознагалоссі на пасяджэнні выклікала пытанне аб аб'яднанні ў блок з палітычнымі сіламі да маючых адбыцца парламенцкіх выбараў. Рашэнне па гэтаму пытанню будзе прынята праз месяц на наступным пасяджэнні.

БЕЛІНФАРМ.

### Сябруем палатамі... маладзёжнымі

*У юбілейным 50-м кангрэсе Міжнароднай маладзёжнай палаты ў Японіі прыняла ўдзел дэлегацыя Маладзёжнай палаты Беларусі.*

Маладзёжная палата Беларусі была створана ў 1992 годзе. Гэта арганізацыя маладых людзей, перш за ўсё прадпрымальнікаў, якая рыхтуе палітычных лідэраў і займаецца грамадскай дзейнасцю.

(УЛ.ІНФ.)

### У замка – юбілей

*У чэрвені наступнага года ў пасёлку Мір пройдзе тэатралізаванае свята, прысвечанае 600-годдзю ўзнікнення пасёлка і 500-годдзю збудавання вядомага на ўвесь свет Мірскага замка.*

Спяшаюцца рэстаўратары з заканчэннем работы, каб паспець да юбілею. Райвыканкам і раённая газета аб'явілі конкурс сярод творчага люду Беларусі на лепшыя мастацкія творы да юбілею. Прызы чакаюцца неблагія.

Юрый АЛЯКСЕЕЎ.

### У Асіповічах – першы "Ікарус"

*Па вуліцах Асіповіч пачаў курсіраваць першы гарадскі аўтобус "Ікарус".*

Набыў яго мясцовы аўтапарк № 19 за 21000 даляраў. Дорага? Але што рабіць, мясцовы пасажырскі транспарт даўно састарэў і патрабуе тэрміновай замены.

Іван СЦЯПУРА.

### Салдаты-агароднікі

*Лясныя далікатэсы ўключаны ў меню воінаў пагранічнага кантрольна-прапускнога пункта ў Свіслацкім раёне.*

У свабодны ад службы час пагранічнікі арганізавалі ў Белавежскай пушчы збор малін і іншых ягад, з якіх (самі ж!) — прыгатавалі варэнне. Нарыхтавалі тут на зіму таксама грыбы. Аднак самым надзейным пастаўшчыком прадуктаў харчавання стаў салдацкі агарод. Зняты нядрэнны ўраджай агуркоў, памідораў, бульбы, морквы. Ёсць на КПП і невялікая свінаферма. Забяспечваць падсобную гаспадарку кармамі пагранічнікам дапамагаюць мясцовыя калгасы.

БЕЛІНФАРМ.

### Нетрадыцыйная сустрэча

*Сёння, калі цэны на звычайныя лекі "кусаюцца", у народзе ўсё больш расце цікавасць да нетрадыцыйнай медыцыны. Нядаўна ў рэдакцыі абласной газеты "Віцебскі рабочы" адбылася сустрэча з галоўным спецыялістам і першым віцэ-прэзідэнтам Міжнароднага інстытута рэзервовых магчымасцей чалавека Рыгорам Грыгор'евым.*

Ён расказаў пра нетрадыцыйныя метады лячэння, адказаў на пытанні журналістаў.

Уладзімір МІХНО.

### Калі вакол распранаюць...

*Мінскі цэнтр дэзінфекцыі і стэрылізацыі сумесна з таварыствам "Чырвонага Крыжа" правялі дабрачынную акцыю сярод "групы рызыкі" — па распаўсюджванню педыкулёзу — бомжаў і бадзяг.*

Апошнія прайшлі дэзінфекцыю ў цэнтры, пасля чаго атрымалі чыстае адзенне з гуманітарнай дапамогі. Падобныя мерапрыемствы вырашана праводзіць як мага часцей.

Ганна МАСЛЯКОВА.

### Выбух у кватэры

*Выбух прагрымеў у мінскай кватэры па праспекце газеты "Правда". Загінуў гаспадар.*

Узарвалася ўстройства, што майстраваў пацярпеўшы.

БЕЛІНФАРМ.

### "Паляванне" на сабак

*Маладзечанскія ўлады ўсур'ёз занепакоены: бяздомныя сабакі на ўскраінах горада сталі сапраўднай бядою.*

Яны кусаюць людзей, нападаюць на свойскую жывёлу. Вырашана ў хуткім часе наладзіць іх адстрэл.

Мікола КАПЫЛОВІЧ.

### Курсы валют на 21 лістапада:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 7300 | 7550 | 4708 | 4924 |
| "Белбізнес-банк" | 7350 | 7600 | 4750 | 4900 |
| "Дукат" | 7325 | 7540 | 4787 | 4938 |

АФІЦЫЙНА

## Канстытуцыйны суд разглядае справу

*18 лістапада Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь пачаў разгляд справы аб адпаведнасці Канстытуцыі рэспублікі Закона ад 6 кастрычніка 1994 года "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб мясцовым самакіраванні і мясцовай гаспадарцы ў Рэспубліцы Беларусь".*

Адкрыў пасяджэнне намеснік старшыні Канстытуцыйнага суда Валерый Ціхіня, які прадставіў састаў Канстытуцыйнага суда, прадстаўнікоў абодвух бакоў, экспертаў, а таксама спецыяльна запрошаных, у іх ліку знаходзіліся намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Іван Бамбіза, намеснік прэм'ер-міністра Віктар Ганчар і іншыя. Адзін бок прадстаўляла група дэпутатаў Вярхоўнага Савета ў саставе Барыса Гетца, Валянціна Голубева, Генадзя Карпенкі, Мікалая Крыжаноўскага, Віктара Піскарова, Аляксандра Спіглазава, другі — загадчык юрыдычнага аддзела сакратарыята Вярхоўнага Савета Уладзімір Барысенка. Кіраўнік адміністрацыі прэзідэнта Леанід Сініцын паведаміў суду, што ён з'яўляецца афіцыйным прадстаўніком інтарэсаў прэзідэнта.

З дакладам аб узнікшай сітуацыі выступіла член Канстытуцыйнага суда Валянціна Падгруша. Яна праінфармавала суд аб змяненнях і дапаўненнях у Закон аб мясцовым самакіраванні, якія былі прыняты Вярхоўным Саветам рэспублікі, паведаміла, што справа была ўзбуджана 9 лістапада па ініцыятыве 82 дэпутатаў Вярхоўнага Савета. У адпаведнасці з рэгламентам Канстытуцыйнага суда, адначасова ў мэтах прадухілення негатыўных вынікаў было прыпынена дзеянне асобных норм дадзенага закона. На думку дакладчыка, увесь спектр узнікшай праблемы можна раздзяліць на два блокі: скасаванне, у адпаведнасці з папраўкамі, Саветаў пярвічнага ўзроўню, стварэнне замест іх распарадчых органаў у асобе мясцовай адміністрацыі і вывядзенне выканаўчых камітэтаў са структуры Саветаў дэпутатаў. Было паведамлена, што ў ходзе падрыхтоўкі да слухання атрыманы тры экспертныя заключэнні вядучых правазнаўцаў краіны. Асаблівую ўвагу Валянціна Падгруша звярнула на той факт, што ў выніку скасавання пасялковых і сельскіх Саветаў грамадзяне 1647 адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак пазбавіліся права выбіраць прадстаўнічую ўладу на месцах.

Затым пачалося слуханне бакоў. Тлумачэнні далі Віктар Піскароў і Валянцін Голубеў як прадстаўнікі групы, якая ініцыіравала ўзбуджэнне справы. Яны паведамілі, што дэпутаты падпісалі зварот да Канстытуцыйнага суда з адзінай мэтай — папярэдзіць парушэнні Канстытуцыі, правоў грамадзян і асноў канстытуцыйнага ўладкавання. Было падкрэслена, што ні асабістых, ні палітычных мэт група парламентарыяў не ставіла. На думку дэпутатаў, прынятыя папраўкі не адпавядаюць шэрагу артыкулаў Канстытуцыі — 1-у, 2-у, 3-у, 21-у, 37-у, 52-у, 117-у, 118-у, 122-у, а таксама шэрагу міжнародна-прававых дакументаў, якія падпісаны дзяржавай. Прадстаўнікі бакоў адказалі на пытанні членаў Канстытуцыйнага суда, экспертаў, запрошаных.

Затым слова атрымаў Уладзімір Барысенка, які даў тлумачэнні па сутнасці справы. Так, на яго думку, скасаванне Саветаў пярвічнага ўзроўню не супярэчыць Канстытуцыі, паколькі кіраўнікі пасёлкаў і вёсак маюць права ўдзельнічаць у самакіраванні праз раённыя, гарадскія і абласныя Саветы дэпутатаў. Уладзімір Барысенка выказаў сваю думку па шэрагу спрэчных момантаў, адзначыўшы, што многія з дапаўненняў не ўваходзяць у супярэчнасць з Канстытуцыяй.

Быў аб'яўлены перапынак на адну гадзіну.

Пасля перапынку Канстытуцыйны суд пачаў даследаванне пісьмовых доказаў, далучаных да справы. Былі заслуханы заключэнні экспертаў: доктара юрыдычных навук Анатоля Галаўко, кафедры тэорыі дзяржавы і права Гродзенскага універсітэта, а таксама дэкана факультэта права Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта Валянціна Бараўцова. Эксперты адзначылі шэраг неадпаведнасцей прынятага парламентам 6 кастрычніка Закона Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь самому Закону аб мясцовым самакіраванні, а таксама міжнародна-прававым актам.

Затым намеснік старшыні Канстытуцыйнага суда Валерый Ціхіня па ўзгадненню з членамі суда аб'явіў аб завяршэнні даследавання пісьмовых дакументаў па справе. У іх ліку — прапанова групы дэпутатаў аб неадпаведнасці Закона Канстытуцыі, стэнаграмы выступленняў у Вярхоўным Савеце дэпутатаў Віктара Піскарова і Віктара Какоўкі, пісьмовыя заключэнні экспертаў, шэраг актаў і іншыя дакументы, якія маюць адносіны да справы.

БЕЛІНФАРМ.

**Увага! Падпіска на "Чырвоную змену" прадоўжана да 7 снежня. Наш індэкс 63129. Кошт на паўгоддзе—6000 рублёў.**

Ф. СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

АБАНЕМЕНТ на газету 63129 (індэкс выдання)

ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА Колькасць камплектаў

на 199 . год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА

ПВ | месца | літар

на газету 63129 (індэкс выдання)

ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА

| Кошт | падпіскі | ______рублёў. | Колькасць камплектаў | |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | ______рублёў. | | |

на 199 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

"Еўраньюс" — "Суперчэннэл" — "Уорлднэт" — "TV-5"




*Дзяжурныя па выпуску перакладчык Ларыса ДУДАРУК, Людміла КАХАВЕЦ, рэдактар Наталля ВАЛАКІДА.*

### МАРАТОРЫЙ НА СМЯРОТНУЮ КАРУ

*Генеральная Асамблея ААН прыняла рашэнне абмеркаваць пытанне аб увядзенні ўсеагульнага мараторыя на смяротную кару.*

Гэта пытанне будзе разглядацца на Трэцяй камісіі ААН, прысвечанай правам чалавека.

### МІНІСТР АБВІНАВАЧВАЕ Ў РАЎНАДУШШЫ

*Сербія праводзіць моцныя артылерыйскія атакі ў раёне горада Біхач.*

Паводле паведамленняў войск, якія знаходзяцца ў зоне бяспекі, сербы неаднаразова парушалі ўмовы ААН і абстрэльвалі гэты рэгіён. Міністр замежных спраў Францыі Ален Жупэ выступіў з крытыкай у адрас лідэраў вядучых дзяржаў, якія, паводле яго слоў, застаюцца абыякавымі да падзей у былой Югаславіі.

### ПАЖАР У АКІЯНЕ

*Ля заходняга ўзбярэжжа ЗША, недалёка ад горада Бостана, загарэўся карабель, які трымаў курс на Італію.*

1 член экіпажа загінуў, 25 удалося выратаваць верталётамі. Многія пасажыры трапілі ў бальніцу. Прычына пажару пакуль невядомая.

### СУПРАЦЬ ЗЛАЧЫННАСЦІ – УСЁЙ ГРАМАДОЙ

*У Італіі адкрылася міжнародная канферэнцыя па крыміналістыцы і барацьбе з арганізаванай злачыннасцю.*

Канферэнцыю ў Неапалі адкрыў Генеральны сакратар ААН Бутрас Галі. Дэлегаты са 138 дзяржаў, якія ўваходзяць у ААН, будуць разглядаць пытанне аб супрацоўніцтве ў барацьбе са злачыннасцю. На арганізацыю канферэнцыі выдзелены 1 млрд. даляраў, 6 тысяч чалавек уваходзяць у ахову членаў канферэнцыі.

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

## БІЗНЕС-КЛАС

### ПА АДЗЕННЕ І АБУТАК – НА ВЫСТАЎКУ

Фестываль выставак, што атрымалі назву "Адзенне і абутак" і "Беларускія кантакты", адбудзецца ў Мінску з 22 па 26 лістапада на выставачных пляцоўках інстытута "Белпраект".

Экспазіцыя збярэ больш за 150 прадпрыемстваў розных форм уласнасці. Сярод іх фірмы са Славакіі, Індыі, Польшчы, Сірыі, краін Балтыі і Расіі. Выстаўка "Адзенне і абутак" праводзіцца ў Мінску ўпершыню. Будзе прадстаўлена разнастайнае верхняе адзенне: ад шлюбных сукенак да дзелавых касцюмаў, а таксама розны трыкатаж, скургалантарэя, дублёнкі.

Фестываль экспазіцый упершыню пройдзе на найноўшым заходнім выставачным абсталяванні. Тут адбудуцца дзелавыя сустрэчы, семінар па пытаннях знешнеэканамічнай дзейнасці і мытнага рэгулявання.

БЕЛІНФАРМ.

### "БЕЛАРУСКІ ДОМ–94"

У Мінскім Палацы спорту завяршылася міжнародная выстаўка-продаж "Беларускі дом-94". Тут была прадстаўлена прадукцыя фірм з Францыі, Вялікабрытаніі, Польшчы, Чэхіі, Фінляндыі, Літвы і Беларусі — мяккая мэбля, разнастайнае абсталяванне, будаўнічыя і абліцовачныя матэрыялы, інвентар для гаспадаркі, электрабытавая і аўдыя-відэа тэхніка і многае іншае, што можа зрабіць жыллё ўтульным і прыгожым.

Уладзімір СТАРАСЦЕНКА.

### БІЗНЕС МАЛАДЗЕЕ

Больш за 800 прадпрымальнікаў налічваецца зараз у Слоніме. 40 працэнтаў з іх — маладыя людзі да 35-ці гадоў.

Займаюцца яны ў асноўным гандлёва-закупачнай дзейнасцю і транспартнымі паслугамі. Ці то жыццёвае прызначэнне штурхае ў бізнес моладзь, а можа няма іншага выйсця?

Юрый АЛЯКСЕЕЎ.

### АМЕРЫКАНСКІ ЦЭНТР

Як паведамілі ў пасольстве Злучаных Штатаў Амерыкі ў Мінску, Міністэрства гандлю ЗША аб'явіла аб выдзяленні ўрадавай субсідыі ў памеры аднаго мільёна даляраў на будаўніцтва і дзейнасць амерыканскага бізнес-цэнтра ў Мінску.

Пасол ЗША ў Беларусі пан Кенэт Яловіц вітаў прадастаўленне ўрадам гранта як "канкрэтны доказ імкнення ЗША нарошчваць аб'ёмы гандлю і капіталаўкладанняў паміж дзвюма краінамі" і адзначыў, што адкрыццё амерыканскага бізнес-цэнтра ў Мінску будзе адзначаць выкананне абяцання, дадзенага прэзідэнтам Білам Клінтанам у час яго візіту ў Беларусь.

БЕЛІНФАРМ.

АДМЕТЫ ЧАСУ

# СТАНДАРТ

□ Якаў ЯСЭПКІН,"ЧЗ"

*Замежным палітолагам, якія сочаць за метамарфозамі постсавецкай дзяржаўнай эліты, мабыць, не зусім проста рабіць высновы, абгрунтаваныя звыклымі, часам стэрэатыпнымі пастулатамі. Заходнія стэрэатыпы цяжка ідэнтыфікаваць з працэсамі на абшарах СНД. Яны аб'ектыўна абумоўлены адметнымі лагічнымі фактарамі. Адным з краевугольных камянёў такой логікі можна лічыць феномен існавання савецкага стандарту.*

Менавіта ў яго непахіснасці крыюцца многія прычыны абвальнага сістэмнага крызісу, які гістарычнай іржой раз'ядае падмуркі дзяржаўнасці былых рэспублік Саюза і ўвогуле рэтраспектыву геапалітычнай прасторы. Безумоўна, крызісны абвал набыў абрысы татальна-катастрафічныя па прычыне перманентных дзеянняў палітыкаў-дылетантаў спачатку на саюзным узроўні, потым у нацыянальных "штаб-кватэрах". Прычым новаўтвораныя палітычныя эліты вызначаліся не проста элементарнай некампетэнтнасцю і недзяржаўным маштабам, а і пэўнай ініцыятыўнай агрэсіўнасцю, асабліва пад час агоніі крамлёўскай улады пры Гарбачове. Аднак падобныя дзеянні ўладатрымальнікаў таксама знаходзіліся і знаходзяцца ў "фокусе стандарту". Калі ва ўмовах росквіту дэспатыі такі, будзем называць яго ўмоўна "савецкі стандарт", арганічна ўваходзіць адным з асноўных элементаў у агульную сістэму (з лёгкай рукі Г.Папова яе там і тут называюць Адміністрацыйнай Сістэмай, што ў прынцыпе адпавядае сутнасці з'явы), пры падзенні ў "дэмакратычную" бездань стандарт становіцца згубным каталізатарам крызісу. Становіцца фіванскім Сфінксам, монстрам, выратаваць ад якога можа хіба што цар Эдып. Паколькі сучасныя правіцелі на ролю Эдыпа ніяк не падыходзяць, рэліктавая пачвара не без поспеху працягвае блукаць па пасуднай ядцы экс-СССР. Не закранаючы ўсіх "тонкіх" сфер жыцця грамадства, скажам толькі аб адным: эканамічны крызіс пры існаванні неўміручага стандарту з хуткасцю шаравой маланкі перамяшчаецца ў тую геаграфічную, геапалітычную ці ўмоўна-часавую прасторавую плоскасць, адкуль дарогі назад сапраўды няма. Будучыя геліконы, да якіх праз тыгель музейна-сацыялістычнай прасторы бессэнсоўна імкнуцца новыя суверэны, вядома, таксама нікуды не знікнуць, будуць існаваць пад гарачым золатам сонца быцця, аднак не на ранейшым месцы. Магчыма, у "трэцім свеце", дзе ландшафт вызначаецца сціплай суровасцю. Пакуль апошнія дрэвы савецкага "вішнёвага саду" сякуць пад корань санавітыя садоўнікі ў чырвоным (бо ў перафарбоўку нават і пасля ціхай смерці партыі носьбітаў марксавых каштоўнасцей паверыць толькі сляпы), такія зусім не ўяўныя краявіды набліжаюцца і набліжаюцца. Хаця знешняя вогненная, па асацыяцыі з дзяржаўнай сімволікай, агульнай для камуністычных краін, аблямоўка, здаецца, страчана назаўсёды, гіганцкі маналіт экс-імперы працягвае напаўфантомнае існаванне. Усюды адно. Чырвоная гліна ледзь утрымлівае падмурак. Гэта не працягнецца доўга. Між тым, асобныя персаналіі, якія ўвасабляюць (персаніфікуюць) уладу захаваюць свой статус і потым або гэткі статус адваююць больш удачлівыя. Не ў тым справа, правадыры-правіцелі найбольш шануюцца ў бананавых рэспубліках.

Можна прыгадаць сучасны "цэлулоідны" бестселер Спілберга "Парк Юрскага перыяду". Рэжысёр стварыў жахлівую казку, рэаніміраваў даўніну. І ўвесь свет з захапленнем сачыў за яе несапраўднымі жахамі. "Несапраўднасць" — святы прынцып заходняй індустрыі "мастацкіх жахаў". Тое, што адбываецца сёння на загадкавых прасторах СНД, па формах і глыбіні адпавядае такому стандарту. Але нерэальнасць падзей уяўная, ўсё рэальна, прычым не мае адваротнага ходу. Нават, калі глядзець на яву праз сюррэалістычную прызму, праз бэзавую лінзу кінаплёнкі. Беларусь, як кэралаўская Аліса, апынулася ў Зазяркаллі не па свайму жаданню, у сілу гістарычнага пераломy, стаўшага фактам быцця рэтра-дзяржавы. Паўторым, такой дзяржавы няма і ў той жа час яна працягвае існаванне энергетычнага злепка, копіі-двайніка.

Пасля разбурэння афіцыйнага пампезнага фасада праляцела адно імгненне. Таму працэсы ў Маскве і іншых "зачараваных месцах" СНД аднатыпныя і развіваюцца з няўхільнай паслядоўнасцю. Карціны рэчаіснасці змяняюць адна адну, агульнае ў іх — гатычная афарбоўка. Нібыта класічныя фарбы Радкліф леглі ценявым налётам на нашыя дні. Што пабачым мы ў Зазяркаллі? XX стагоддзе — не сярэднявечча, узровень жыцця народа цяжка "апусціць" ніжэй за пэўную мяжу-адзнаку. Але ход рэформ "уражвае" не толькі слабанервовых, здаецца, людзі — асноўная перашкода для "рэфарматараў". Пакуль фасад велізарнай уяўнай будовы з абрэвіятурай "СССР" ліжуць языкі распаднага полымя, а народы адхіляюцца ад падаючых уніз абломкаў, гатычныя фарбы ствараюць фон часу. Чорназалаты глянец сонечнага захаду нібыта лёг на шпіль тысячагадовай гісторыі апошняй звышімперы. Распад пачаўся маланкава, колькі ён працягнецца — не ведае ніхто. Але водблескі маскоўскага ўшчэрбнага сонца маркотным узорам пакрываюць некалі адзіныя землі, іх змрочна-прывідныя блікі — на тварах сучаснікаў. Жыццё не абяцае добрых перамен, святло мінулага яшчэ распазнаецца, а наперадзе — маякоў мала, калі не сказаць — няма.

Між тым, цяжар шапкі Манамаха некалькі гадоў прыціскае эфемерныя німбы над галовамі мясцовых цэзараў і банапартаў. Японскія воіны мелі некалькі ценяў. Міхаіл Сяргеевіч заняты сваімі справамі (хаця апошнія ягоныя заявы і выказванні даюць падставу зрабіць вывады, што першы саюзны прэзідэнт мае намер вярнуцца ў вялікую палітыку), на нейкі час у вобраз воіна ўвайшоў Ельцын, астатнія расійскія і рэспубліканскія высокія чыноўнікі амаль не выходзяць з крамлёўскага ценю. Прытым, што застойна-сацыялістычная карціна ў кастрычніцкай барвовай раме можа знаходзіцца ў музейнай прасторы, на яе можна глядзець, яе нельга "ўнесці" ў рэчаіснасць з касмічнага холаду былога, каб паставіць замест іконы ў чырвоны кут. Мабыць, невыпадкова ў найноўшы свецкі этыкет увайшлі масавыя хаджэнні палітыкаў у царкву, іконы і свечкі. Зорку памянялі на крыж, а ім і ў храм некалькі гадоў лепей не заходзіць. Што ж, яшчэ нагода для ўсмешак святых айцоў і інтэлігентаў. "Д'ябальскую адмеціну" на ўсіх дзеяннях партыйных залатавустаў інтуітыўна "заўважыў" Алег Волкаў. Старэйшы расійскі пісьменнік (вучыўся разам з Набокавым), потым вязень рэжыму, гаварыў: за якую справу ні возьмуцца, нічога не атрымліваецца. Гэта пра камуністаў. Карма, магчыма, не дазваляе. Аднак не толькі магічныя сілы ўмешваюцца і "не дазваляюць", хаця здаўна вядомыя і навукова дадазаныя факты ўтварэння, напрыклад, анамальных зон адмоўнай энергіі на месцах пакарання, злачынства (у Свярдлоўскай вобласці: знішчэнне царскай сям'і і г.д.). Апроч магіі дзейнічае савецкі стандарт.

Мы адзначалі яго адносную бяспеку пры таталітарызме. Пад час выхаду з дэспатыі існаванне "стандарту" становіцца фатальным. Галоўнае нават не ў форме дзяржаўнай арганізацыі. Аляксандр Салжаніцын сказаў у Думе: алігархія. Дададзім: і не ў адной Расіі. Ёсць іншыя меркаванні, паліталагічныя аўтарытэты сцвярджаюць, у СНД прэваліруе аўтакратычная форма кіравання. Без спасылак на імёны і аглядкі на дакладнасць розных вызначэнняў можна сцвярджаць, што пры любых формах дзяржаўнай арганізацыі існаванне (дакладней, панаванне) комплексных стэрэатыпаў пабуранай сістэмы ўяўляецца выбуховай канструкцыяй. Яна спрацоўвае з пунктуальнасцю савецкіх пратакольных мерапрыемстваў. "Стандарт" матэрыялізуецца на хісткай глебе дэмакратыі і матэрыялізуецца з такой сілай, з якой "кветкі зла" маглі б прарастаць праз мармур эпох. Ён існуе на верхніх і ніжніх узроўнях, але "наверсе" асабліва небяспечны. Познесавецкія лідэры п'юць атруту ўлады, залаты салодкі яд, не ўсведамляючы таго. Або ўсведамляючы. Цяжка адмовіцца ад кубка Гебы. Прынамсі, калі ўяўляеш сябе за тым сталом, дзе пілі Гамер, Сафокл і змрочны Дант. Пакуль слаба бачны ў смузе пурпурова-залаты атрамант на святцах нашых дзён, а што п'юць за банкетнымі сталамі — народ не ведае. Ці не запіваюць вадою забыцця? Хай бы і пілі, і кіравалі па-дзяржаўнаму. Перашкаджае адсутнасць традыцый. Ельцын побач з англійскай каралевай у царскіх крамлёўскіх харомах адчуваў сябе яўна не царом Барысам. Тут таксама ускоснае ўздзеянне "стандарту". Камуністычны комплекс. Узнясенне са Свярдлоўска ў "сэрца Расіі". Падзенне, ухіленне прабацькі і апекуна. Тыповы партыйны шлях. І праходзіў ён праз "хмарную раніцу" перабудовы,якая надышла за той ноччу, дзе ўсе ўчарашнія і сённяшнія (за рэдкім выключэннем) правіцелі бачылі неба ў дыяментах.

У чым ён, сістэмны стандарт? "Чудище обло, огромно..." Бадай, вызначальнай адметай можна лічыць "шэрасць". Шэрыя кардыналы, якія ляпілі і абслугоўвалі правадыроў, накіроўвалі рух палітычнага "карабля" ў вечным лёдзе, былі, між іншым, і своеасаблівым эталонам. Пры пабудове ўласнай кар'еры выкарыстоўваўся такі ж шэры стандарт. Маральнасць згадваць не станем, згадаем агульнавядомае: кар'еры будаваліся ў партыйных палацах. Вядома і якія якасці былі неабходнымі і надта паважаліся ў сістэмным запаведніку. Ніякім чынам яны не звязваліся з прафесійнымі здольнасцямі. А выключэнні толькі пацвярджаюць правілы.

Савецкі стандарт існуе сёння, таму што існуюць яго носьбыты. Высокія крэслы заняты, у іх сядзяць старыя добрыя знаёмцы. Няма партыі, ёсць партытура. Камерныя ансамблі правіцеляў не маюць вакансій. А на падыходзе новыя шэрагі. Тым часам умоўная стэрэатыпная планка пастаянна паніжаецца, як і агульны ўзровень "адэкватнасці" асобы пасадзе. Хутчэй за ўсё, скачку "наверх" некампетэнтных і шэраговых людзей паспрыялі бурныя працэсы, абумоўленыя дэмантажом той самай Сістэмы, геапалітычным крызісам. Амаль адразу надышла чарга эканомікі. "Стандарт" тыражуецца, дзеці сацыялізму працуюць так (у лепшым выпадку), як і раней, але жывуць горш і горш. А суддзі хто — вось у чым пытанне. Зусім не выпадкова індустрыяльны Захад трымае за "свяшчэнную карову" ўпраўленца любога ўзроўню. Пра прыватны бізнес няма і размовы. У нас ад верху пірамідальных уладных гмахаў да нізу "чырвонай ніткай" працягнуўся савецкі стандарт. Чыноўніцтва ва ўсіх іпастасях камфортна размясцілася ў народным доме. Калі і зацвіце дзе ружа — пойдзе на букет з чартапалоху.

## ЮБІЛЕІ



70 год споўнілася адной са старэйшых ВНУ рэспублікі — Віцебскаму ветэрынарнаму інстытуту, пераўтворанаму цяперашняй вясной у Дзяржаўную акадэмію ветэрынарнай медыцыны. За гады існавання ў сценах ВНУ падрыхтавана каля 20 тысяч кваліфікаваных спецыялістаў для сельскай гаспадаркі.

Сёння тут вучацца каля 2 тысяч студэнтаў, якія пасля заканчэння акадэміі атрымаюць дыпломы зоаінжынера і ўрача ветэрынарнай медыцыны.

Восем вучэбных карпусоў, аснашчаных сучасным абсталяваннем, спартыўны комплекс, клуб, бібліятэка, сталовая, 6 інтэрнатаў — усё гэта сёння ў распараджэнні студэнтаў.

Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛІНФАРМ.

## КУР'ЕР 'ЧЗ'

### Польска–беларуская газета

*На беларускай мове пачала публікаваць частку матэрыялаў польская штомесячная газета для дзяцей і юнацтва "Цудовна подруж" ("Цікавае падарожжа"), якая выходзіць у Гродна.*

Такая магчымасць з'явілася дзякуючы набыццю рэдакцыяй з дапамогай мясцовых і замежных спонсараў спецыяльнай настольна-выдавецкай сістэмы.

БЕЛІНФАРМ.

### Пяць плюс пяць

*Пяць беларускіх і пяць нямецкіх мастакоў з горада Худэ прадставілі свае работы на выстаўцы, якая адкрылася ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі.*

Арганізатарамі сумеснай акцыі сталі Міжнародная асацыяцыя гуманітарнага супрацоўніцтва, беларускі дабрачынны фонд "Дзецям Чарнобыля" і Саюз мастакоў зямлі Ніжняя Саксонія.

БЕЛІНФАРМ.

### Восеньскія напевы

*Фестываль бардаўскай песні "Восень–94" прайшоў у гродзенскай СШ № 18.*

Арганізавалі яго мясцовы дзіцяча-юнацкі цэнтр і Клуб вучняў старэйшых класаў, а фірмы "Аверс" і "Анцэнт" падрыхтавалі падарункі для пераможцаў. Гледачы пазнаёмяцца з заўтрашнім днём аматарскай песні на Гродзеншчыне.

Юрый АЛЯКСЕЕЎ.

### "Зорка"–падарожніца

*Не сядзіцца дома, на падмостках роднае сцэны, узорнаму танцавальнаму ансамблю "Зорка" Віцебскага абласнога палаца культуры прафсаюзаў. Хоць і складана стала выязджаць на гастролі, усё часцей даводзіцца звяртацца па дапамогу да фундатараў.*

Тым не менш, напрыканцы лета юныя артысты пабывалі ў Наваградзе-Валынскім, на Украіне, на традыцыйным фестывалі, а зусім нядаўна выступалі ў Мінску.

Уладзімір МІХНО.

## ЗАМАЛЁЎКІ З НАТУРЫ

### Музычнае прывітанне

На абласное радыё прыйшло пісьмо. Так, маўляў, і так, жыве ў нашай вёсцы добры, працавіты фермер. Просім павіншаваць яго з працоўнымі поспехамі і перадаць па заяўцы рускую народную песню: "Ой вы, гуси, до свидания".

Праз тыдзень прыязджае фермер на радыё, падымае гвалт. Маўляў, мала таго, што нехта ўкраў статак гусей, дык яшчэ і радыё паздзекавалася.

### Каза

Жыла ў нашай вёсцы адна бабулька. Яе чалавек не вярнуўся з вайны. Дзяцей у іх не было. Так і жыла адна. І вось выйшла, нарэшце, на пенсію. І пачала кволіцца ад хваробы. Калі працавала — ніколі не хварэла, а калі перастала, дык адразу і занядужала. Пайшла ў бальніцу, але там аніякай хваробы ў яе не прызналі. Мучыцца старая. Тут суседка і падказала ёй:

— Купі казу. У яе малако, як лекі. Будзеш піць — здароўе вернецца. Старая паслухалася яе. Пачала, перш чым купіць казу, сена ёй нарыхтоўваць. Пакос на такую жывёліну, вядома, не далі — жала сярпом на межах траву, насіла ў двор, сушыла. І гэтак — усё лета. Увосень поўнае гумно сена нацягала. Трэба і казу купляць. І пачынаць лячыцца. І тут спахапілася: а ад чаго лячыцца? Нічога не баліць, сон добры, апетыт ёсць. Не заўважыла, як за лета паправілася. Але казу ўсё ж купіла. Не прападаць жа дабру. Сену.

### Вечны перадзел

Мы сядзім з дзедам Рыгорам на лаўцы і гаворым пра нашае гарапашнае жыццё.

Паўз нас прайшоў гурт маладых хлопцаў.

— Фермеры, — гаворыць дзед. — Нядаўна беглі вось так, шчаслівыя. Глядзі, кажуць, дзядуля, дакумент у раёне далі, цяпер зямля пераходзіць да нас у вечнае карыстанне. — Ён крыва ўсміхнуўся. — Сталыпін абяцаў майму дзеду хутар, Ленін заклікаў: "Зямля — сялянам!" Потым наш старшыня прывёз акт аб перадачы зямлі ў вечнае карыстанне калгасам. Павесілі, памятаю, мы той акт у праўленні і молімся на яго: "Дзякуй роднаму Сталіну!" Кожны новы кіраўнік дзяржавы зямлю дае. А я і па сённяшні дзень без зямлі.

Мікола КАПЫЛОВІЧ.

*Сто артыкулаў*

# ПУШКІНСКІ



*Ігар Рыгоравіч СЦЯПУНІН.*

*Нарадзіўся 24 снежня 1926 г. у Санкт–Пецярбургу. У 1955 г. закончыў аспірантуру пры Беларускім дзяржаўным універсітэце, абараніў кандыдацкую дысертацыю "Савецкі гістарычны раман аб пачатковым перыядзе барацьбы за ўз'яднанне Русі (раман Барадзіна "Дзмітрый Данской"). Выкладаў рускую літаратуру ў Мінскім дзяржаўным педагагічным інстытуце імя Горкага.*

*Даследуе гісторыю Беларусі, піша пра дзейнасць знакамітых людзей нашай краіны, развіццё беларускай культуры, мастацтва. У цэнтры ўвагі аўтара пытанні ўзаемадзеяння рускай і беларускай літаратуры, адлюстраванне ў творах паэтаў і празаікаў нашай агульнай гістарычнай спадчыны і духоўных набыткаў народаў–братоў.*

Вядомы пушкіназнаўца і гісторык П.Е.Шчогалеў у 1930 г. упершыню апублікаваў пісьмы многіх карэспандэнтаў А.С.Пушкіна, асабліва вылучыўшы віцябчаніна Васіля Якаўлевіча Мызнікава. Аўтар не без падстаў называў яго "бескорыстным обожателем великого русского поэта". Хто ж такі "обожатель", чым ён знакаміты?

19 верасня 1833 г. Мызнікаў піша Пушкіну з Віцебска пра тое, што ён з'яўляецца гарачым паклоннікам яго таленту, што ў ягоным уяўленні паэт заўсёды быў сапраўды народным пісьменнікам, які сваімі творамі праславіў Радзіму. "Ваша міласць, Аляксандр Сяргеевіч!— піша Мызнікаў.— Калі ласка, успомніце таго ваеннага афіцэра, які два гады таму, прыехаўшы ў сталіцу, спяшаўся да Вас, каб выказаць сваю павагу! Падзяляючы разам з іншымі маімі адукаванымі суайчыннікамі любоў да расійскай паэзіі, якую Вы пасялілі ў нас сваімі векавымі тварэннямі, я асмеліўся цяпер на подзвіг даволі смелы: прысвяціць Вам адзін з маіх твораў. Буду лічыць сябе шчаслівым, калі Вы дазволіце яму ўпрыгожыцца Вашым імем: для парнаскага навічка гэта будзе самым прыемным падбадзёрваннем.

З пачуццём глыбокай павагі маю гонар быць Вашым, ваша міласць, пакорнейшым слугой. Васіль Мызнікаў. 19 верасня 1833 года г.Віцебск. Калі Вы захочаце ўдастоіць Вашага шчырага прыхільніка сваім адказам, то мой адрас: Васілю Якаўлевічу Мызнікаву, ад'ютанту князя Хаванскага, лейб-гвардыі Грэнадзёрскага палка, паручніку — у Віцебск". На жаль, адказ Пушкіна не захаваўся.

Кароткія біяграфічныя звесткі пра Мызнікава знаходзім у кнізе вядомага пецярбургскага пушкіназнаўцы Л.А.Чарэйскага "Пушкін і яго асяроддзе", дзе ўпамінаюцца ўсе асобы, з якімі сустракаўся і сябраваў Пушкін. Але ў кнізе Чарэйскага не сказана пра дзейнасць Мызнікава ў Беларусі.

Як сведчаць матэрыялы Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь (НАРБ), Мызнікаў з 1823 па 1828 год выконваў абавязкі настаўніка малодшых класаў юнкерскай школы ў Магілёве, з 1823 года быў прапаршчыкам, з 1825 года — падпаручнікам, з 1827 г. — паручнікам 4-га лейб-гвардзейскага палка. "За старанннасць і поспехі ў выкладанні гісторыі і расійскай славеснасці армейскім падпрапаршчыкам яму была аб'яўлена ад галоўнакамандуючага 1-й арміяй асаблівая ўдзячнасць, ён узнагароджаны таксама залатым гадзіннікам з такім жа ланцужком".

Мызнікаў, паводле слоў блізка ведаўшага яго генерал-маёра Р.І.Філіпсона, "быў чалавек для таго часу развіты і адукаваны". У службовым спісе Мызнікава на пытанне "ці мае веды ў якіх навуках" дадзены адказ: "па гісторыі, геаграфіі, арыфметыцы, геаметрыі, трыганаметрыі, алгебры, статыстыцы, палявой фартыфікацыі, тактыцы, стратэгіі, чарчэнню планаў, маляванню, ваенна-судовай часці, вядзенню ваенна-судовых спраў, фехтаванню і верхавой яздзе". Удалося высветліць, што ён добра ведаў французскую і нямецкую мовы, "ведаў і любіў літаратуру", з'яўляўся супрацоўнікам "Літаратурных дадаткаў" да "Рускага інваліда", куды дасылаў свае вершы. Адзін са сваіх вершаў ("твораў кароткіх ваенных перадышак") ён прысвячае Пушкіну.

З 20 сакавіка 1828 г. Мызнікаў прызначаны ад'ютантам віцебскага генерал-губернатара князя М.М.Хаванскага і выконвае абавязкі чыноўніка асаблівых даручэнняў. Даручэнні былі самыя розныя. З чэрвеня 1828 г. і 10 чэрвеня 1834 года ён быў пасланы ў розныя гарады Магілёўскай губерні (Баранавічы, Шклоў і іншыя), каб весці барацьбу "супраць злоўжыванняў па продажу спіртных напіткаў". Мызнікаў высветліў, што віноўнікамі ўсіх злоўжыванняў былі не толькі гаспадары піцейных установ (карчмары), але і некаторыя афіцэры царскай арміі (капітан 1-га карабінернага палка Дэмарцье і іншыя), якія кантрабандным шляхам прывозілі з сабой спіртныя напіткі. Усё гэта прыводзіла "да ўсялякіх беспарадкаў".

У перыяд паўстання 1830—1831 гг. Мызнікаў па загаду генерал-губернатара выконваў абавязкі віцебскага паліцмайстра. Ён змагаецца за ліквідацыю ў віцебскай турме антысанітарных умоў. У гэтай турме адбывалі пакаранне палонныя шляхцічы-паўстанцы. У ліку іх быў дваццацідвухгадовы беларускі шляхціч Павел Астроўскі, гісторыя якога паслужыла канвой для сюжэта рамана Пушкіна "Дуброўскі". Як чыноўнік па асабовых даручэннях, што быў адказны за ўсе судовыя справы, Мызнікаў не мог не ведаць справы Астроўскага.

Асабліва актыўнай была роля Мызнікава ў абароне інтарэсаў беларускіх сялян, якія пакутавалі ад самадурства ўладальнікаў прыгонных душ. З 4 мая па 23 чэрвеня 1829 г. Мызнікаў прымае ўдзел у рабоце следчай камісіі для даследавання "ненатуральных смертнасцей" у маёнтку памешчыкаў Цэханавецкіх. Следства, якое вёў Мызнікаў, устанавіла, што памешчык Віцебскага павета Фелікс Цэханавецкі, адстаўны ротмістр, які "займаў пасаду віцебскага губернскага маршала", фактычна абкрадвае сваіх прыгонных сялян. Ён "сілаю прымушае працаваць больш як тры дні ў тыдзень на паншчыне, ураўноўвае ў рабоце 60-гадовых з маладымі і забірае па 24 рублі з кожнай рэвізскай душы". Цэханавецкі таксама за невялікія правіннасці "біў сваіх слуг рукамі, цягаў па зямлі за валасы, караў розгамі і бізунамі". Яго жонка Элеанора, "яшчэ лежачы ў ложку, шукала прычыны для пакарання і трымала пры сабе спецыяльна прыгатаваную плоскую палачку, якой і карала прыгонных жанчын, наносячы да 20 удараў". Цэханавецкія дрэнна абыходзіліся не толькі з дваровымі, але і з вольнанаёмнымі людзьмі. Каралі яны па-зверску, як садысты.

Многія прыгонныя, не вытрымаўшы здзекаў, канчалі самагубствам, некаторыя з іх, даведзеныя да адчаю, спрабавалі атруціць сваіх мучыцеляў, але спроба не ўдалася, а вінаватыя былі сасланы ў Сібір, на катаргу.

Гэтыя страшныя людзі дзейнічалі беспакарана, таму што ў іх быў высокі заступнік — магілёўскі цывільны губернатар граф М.М.Мураўёў. Цэханавецкія таксама падкупілі віцебскі галоўны суд 2-га Дэпартамента, які вынес беспрэцэдэнтнае рашэнне: "мужа і жонку Цэханавецкіх па кіраванню маёнткам і абыходжанні з сялянамі і дваровымі людзьмі лічыць апраўданымі і ўсе ўзведзеныя абвінавачванні лічыць несапраўднымі, пакінуць іх ад усялякай адказнасці зусім свабоднымі".

Не лепшую ролю ў гэтай гісторыі адыграў і віцебскі генерал-губернатар князь М.М.Хаванскі. Даведаўшыся, што "камісія дзейнічала вельмі строга", ён запрасіў Цэханавецкага да сябе, сам быў у яго з грамадзянскім губернатарам, прасіў прабачэння перад яго жонкай "за хваляванні" і нават абяцаў паскорыць рашэнне следчай справы на карысць Цэханавецкіх. У той жа час вельмі пыхліва ставіўся да сялян, не дапускаў да сябе прасіцеляў, гутарыў з імі толькі ў прысутнасці цывільнага губернатара і губернскага маршала, заклікаў сялян "адумацца, змірыцца, падумаць, ці не самі яны вінаватыя". Але факты, прыведзеныя Мызнікавым, былі вельмі ўнушальнымі і добра аргументаванымі. Хаванскі вымушаны быў зрабіць хоць нейкія захады, улічваючы рашучыя дзеянні сялян. Гэта пакрыўдзіла Цэханавецкіх. Тыя скардзіліся на яго самому шэфу жандараў А.Х.Бенкендорфу. Памешчыца

